Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



# КАМУНІКАТ Но.1 (55 ад 1990), СТУДЗЕНЬ, 2001

## 1000-Я ЎГОДКІ АД СЬМЕРЦІ ПОЛАЦКАЕ КНЯЖНОЕ РАГНЕДЫ

Рагнеда, дачка князя Равгвалода, які княжыў у Полацку ў 10-м стагодзьдзі. Весткі аб іх хоць скупыя мы маем зь летапісаў.

Нажаль найстарэйшыя беларускія летапісы - Полацкі й Тураўскі - не захаваліся. Таму й веды пра найстарэйшую гісторыю Беларусі фрагмэнтычныя. Тым ня менш дзякуючы дасьледаваньням гісторыкаў некалькіх пакаленьняў, сяньня мы маем уяўленьне аб галоўных мамэнтах разьвіцьця й дзяржаўнага станаўленьня беларускіх зямель.

Найстарэйшыя весткі, якія маюць беспасрэдняе дачыненьне да гісторыі Беларуісі зьявіліся ў найстарэйшым летапісе «Повесьці врэменных лет». А менавіта пад годам 980 гаворыцца пра Полацкага князя **Рагвалода,** ягоную дачку **Рагнеду,** ды пра князя **Тура.**

* * *

Беларускі народ утварыўся зь плямёнаў: Крывічоў, Дрыгавічоў, Радзімічаў, Вяцічаў і Севераналў. Вялікае значэньне ў гістарычным лёсе беларусаў , а дакладней кажучы, плямёнаў, зь якіх утварыўся беларуыскі народ, згуляла тая акалічнасьць. што празь іхнія землі праходзіў слаўны вялікі водны шлях «з варагаў у грэкі» - адна з галоўных гандлёвых, а тым самым і культурных магістраляў Усходняе Эўропы таго часу. Уздоўж гэтае дарогі канцэнтравалася галоўная маса ўсходнеславянскага насельніцтва.

У найстарэйшым летапісі «Повесьці врэменнтх лет» падзеі ў Полацку прадастаўлены, як эпізод змаганьня князя Уладзіміра з братам, Кіеўскім князем Яраполкам. Там гаворыцца, што Уладзімір сабраўшыся вайной на Ярасполка , паслаў слугаў да Полацкага князя Рагвалода з просьбяй аб руку дачкі Рагнеды. Рагнеда не згадзілася быць жонкай Уладзіміра. Разгневаны Уладзімір ідзе зь вялікім войскам на Полацак, здабывае яго, забівае Рагвалода й ягоных двох сыноў, а Рагнеду сілай бярэ за жонку.

У Лаўрынаўскім летапісі ўсё гэта прадстаўлена, але галоўнае месца займае расказ пра далейшае жыцьцё Рагнеды, яе помсту Уладзіміру за сьмерць бацькі й братоў, за сябе, за чэсьць яе сына Ізяслава. У выніку гэтай помсты Уладзімір высылае Рагнеду зь яе сынам Ізяславам у Полацак, будуе горад Ізяслаў'е й там іх пасяляе.



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

У Цьверскім летапісі расказ пра Рагнеду мае на мэце паказаць цудатворную сілу новапрынятага хрысьціянства. Рагнеда пастанавіла прысьвяціць сцаё жыцьцё службе Хрысту. І як тыолькі яна аб гэтым сказала, ейны сын калека стаў хадзіць. Рагнеда прыняўшы імя Анастасіі паступіула ў манашкі.

Пакуль аднак Полацкія падзеі былі запісаны летапісцамі, расказы пра Рагнеду перадаваліся ў народзе з пакаленьня ў пакаленьне й набралі ў сабе шмат легендарнага. Але якраз ў легэмдарным народ выражае свой гістарычны быт.

* * *

Ды галоўную ўвагу ў Полацкіх падзеях 980 году, ад якога лічыцца пачатак гісторыі Беларусі, прыцягвае **РАГВАЛОД.** Ён - першы Полацкі князь, якога імя ўспамінаецца ў гістарычных хроніках. Бязумоўна й да Рагвалода былі князі ў Полацку, але, прынамсі некаторыя зь іх, былі залежныя ад Кіева. А Рагвалод выступае незалежным уладаром Полацкага клняства. Ёсьць меркаваньні, што перад Раввалодам у Полацкім княстве княжыла ягоная матка княжная Прадслава. І праўдападобна не прыпадкова Рагнеда, як дачкла Рагвалода, дала гэтае імя сваёй дачцы, у памяць яе бабкі. Імя Прадслава было пашыранае ў Полаччыне . Як ведама сьв. Еўфрасыіньня Полацкая перад пастрыжэньнем у Манашкі звалася Прадславай.

Рагвалод выступае, як дзеяч поўнасьцьцю адданы інтарэсам Полацку. Ён , кажа гісторык, першы з князёў Полацкай зямлі пачуў яе сілу й яе магчымасьці. Ён імкнуўся пашырыць свае ўплывы й на іншыя землі, злучыць Полацкую зямлю з Тураўскай, што яму й удалося. Летапісь робіць намёк на гэта ставячы побач Рагвалода Тураўскага князя Тура. Лягэнда кажа, што Рагвалод падняўся з войскам па Дняпру на поўдзень аж да Прыпяці, выслаў уверх яе адну із сваіх дружынаў начале з Турам, які выбраўшы адпаведнае мейсца, заснаваў горад Тураў.

Даканаўшы зьяднаньня Полацкае зямлі з Тураўскай, Рагвалод накіраваў сваю ўвагу на поўнач. Як паведамляе Іякімаўскі летапісь, ён напаў на Ноўгародзкія землі, каб здабыць ключавыя пазыцыі на тарговым шляху на Дняпры, якія былі пад уладай Ноўгараду. Аб сіле Полацку сьведчыць тое, што летапісі кажуць аб калінізацыйнай экспансіі Полаччыны. Летапісец кажа, што якраз ад Палачан паходзяць тыя крывічы , што аселі над верхняй Волгай, Дняпром і Дзьвінай. Нічога дзіўнага, што Рагвалод чуючы сваю сілу, хацеў валодаць усімі землямі, заселенымі палачанамі-крывічамі. Не дарма ў Тураўскім летапісі ўсе крывіцкія землі характэрызуюцца, як **Полацкія «власьці»** - гэта знача ўладаньні.

Напад Рагвалода на Ноўгарадзкія землі й выклікаў паход Уладзіміра на Полацак. Лічучыся з сілай Рагвалода, Уладзімір, як кажа летапісец, «сабраў воі многія із варагаў, славянаў і крывічоў ізборскіх.» Таму фактычна супраць Рагвалода выступілі ўсе сілы паўночных славянаў. Рагвалод выйшаў ім на сустрач, але пацярпеўшы паражэньне вярнуўся ў Полацак, за мурамі якога мужна бараніўся. Паў і Полацак. Рагвалод быў узяты ў палон і забіты разм з жонкаю й ягонымі двома сынамі. Відавочна Уладзімір хацеў зьнішчыць, небясьпечную для сябе, дынастыю Полацкіх князёў.

Першая спроба Полацку вырвацца па Дзьвіне да Дняпра была няўдалай, але не прайшло й паўстагодзьдзя, як праўнук Рагвалода Братыслаў Ізяслававіч гэтую

мэту асягнуў. Гэта сьведчыць аб палітычнай далёказорнасьці Рагвалода, аб тым, што ён узяўся вырашаць жыцьцяважныя для Полацку заданьні.

Другой цікавай асобай таго часу ёсьць саюзьнік Рагвалода дрыгавіцкі князь Тур, які заснаваў горад Тураў, што меў таксама важнае эканамічнае значэньне.

* * *

Ды цэнтральнае мейсца ў разгляданых летапісцамі падзеях 980 году займае **РАГНЕДА.**

У«Повесьці врэменных лет» мы бачым Рагнеду гордай княжной, якая не захацела выйсці замуж за сына рабыні. Яна сказала: «Не хачу разуць рабыніча». Матка Уладзіміра была ключніцай.

Лаўрынаўскі летапісь гаворыць пра рысы характару Рагнеды: пра ёйную безгранічную адданасьць Бацькаўшчыне, пра ейную гнеўную ненавісьць да ворагаў, пра жаночую гордасьць, пра жарскую мацярынскую любоў. Усё гэта накіроўвае Рагнеду на гераічны паступак - помсту Уладзіміру. Калі ён адпачываў, Рагнеда хацела яго забіць, але ён прачнуўшыся схапіў ейную руку. За гэта Уладзімір хацеў пакараць Рангеду сьмерцьцю. У прысутнасьці ськлікааных баяраў Рагнеда сьвятпчна прыбраная бясстрашна чакала сьмерці, ад якое аднак выратоўвае яе ейны сын Ізяслаў. Калі Уладзімір падняў меч на Рагнеду, у залю ускочыў яшчэ малы Ізяслаў і зь мячом кінуўся да бацькі кажучы: «Бацька памятай, што ты не адзін.» Засаромлены й расчулены Уладзімір дараваў жыцьцё Рагнедзе і выслаў яе з Ізяславам у Полацак.

Горды воблік **Рагнеды** назаўсёды застаўся ў памяці беларускага народу, як выхадная падзея яго гісторыі. Вобраз непакорнай Палачанкі не памёр за тысячу год, а наадварот набраў новага жыцьця у мастацкіх творах: у хварбах на палотнішчах, у музыцы, ліатаратуры, ды ў тых дзяўчат і жанчын, якія завуцца імём **РАГНЕДА.**

* * *

Выняткавая роля ў гісторыі Полаччыны прыпадае й сыну Рагнеды **ІЗЯСЛАВУ.** У летапісі ён выступае, як збаўца маткі. Гэта ягоная прысутнасьць і ягоны меч, што ўлажыула яму ў рукі Рагнеда, змусіў1 Уладзіміра апусьціць і свой меч. Уладзімір вярнуў Ізяславу Бацькаўшчыну Рагнеды, пастроіў горад Ізяслаўль - цяперашняе Заслаў'е, што каля Менску, і пасяліў у ім Ізяслава з маткай Рагнедай. Так гаворыць летапісец.

Аднак Ізяслаў жыў у Полацку, які ў той час ужо адбудаваўся пасьля зьнішчэньня яго Уладзімірам і хутка здабыў незалежнасьць. Ад Ізяслава пачынаецца Полацкая княжская дынастыя, факт, які гаворыць аб аканчальным палітычным і дзяржаўным фармаваньні Полацкай зямлі. Вялікая заслуга Ізяслава й тая, што ён стаў першым прасьветнікам Полаччыны, увёў пісьменства. Пры ім пісаліся граматы зь ягоным подпісам і пячаткай, якія захаваліся. Ізаслаў жыў коратка, 25 - 26 гадоў і памёр у 1001 годзе.

**РАГВАЛОД, ТУР, РАГНЕДА, ІЗЯСЛАЎ. . .** сузор'е імёнаў, што ўспыхнула ў канцы 10-га веку. Яны сымбаль далёкага прошлага Беларусі й стаяць у пачатку

ужо болей, як тусячыгодняй яе гісторыі.

* * *

---

## 85-Я ЎГОДКІ ЖЫЦЬЦЯ ВАЛЯНЦІНЫ ПАШКЕВІЧ

5-га лютага, 2001 году, спадарыні Валянціне Пашкевіч спаўняецца 85 год, дзейнага й творчага на карысьць беларускай вызвольнай справы, жыцьця. Мы ведаем яе перадусім, як аўтарку англямоўнага падручніка - "FUNDAMENTAL BYELORUSSIAN"- «БЕЛАРУЫСКАЯ МОВА», аб выданьні двох тамоў якога была гаворка ў КАМУНІКАЦЕ ККБК нр. 6, за ліпень, 2000.

Валянціна Пашкевіч, дачка Міколы й Надзеі Жукоўскіх, радавітых Пружанцоў, Берасьцейшчыны ў Заходняй Беларусі. У Пружанах яна закончыла польскія пачаткавую й сярэднюю-гімназію школы. На заканчэньне сямігодкі - пачаткавай школы, як найлепшая вучаніца, атрымала першую ўзнагароду: том нямецка-польскага й польска-нямецкага слоўніка. Тады яна не здавала сабе справы з таго, што ейная ўзнагарода была свайго роду прароцтвам. Больш-менш пачынаючы з другой паловы пяцьдзесятых годоў свайго жыцьця праз 25 год яна пільна працавала над складаньнем ангельска-беларускага слоўніука, які цяпер закончаны й чакае на прадукцыю - друк.

У 1935 годзе пасьля заканчэньня гуманістычнага тыпу гімназіі Адама Міцкевіча ў Пружанах яна паступіла на факультэт клясыкі - грэкі й лаціны - культуры й мовы старажытнае Грэцыі й Рыму, Унівэрсытэту Сьцяпана Батуры ў Вільні. Адразу ўключылася ў, буйнае ў той час, беларускае жыцьцё Вільні. Сталася сяброўкай Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні. Ува ўправе гэтае арганізацыі поўніла функцыю скарбніка. Наведвала лектарат беларусаведы др. Янкі Станкевіча. У Беларускім Музэі імя Івана Луцкевіча ў Вільні, калі надарвалася патрэба, поўніла функлцыю праваднікa.

Пасьля двох гадоў студыяў клясыкі, пераканаўшыся, што цікавыя навукі старажытных моваў і культураў у жыцьці могуць быць зусім непрактычнымі, бо лаціну й грэку перасталі вучыць у сярэдніх школах, яна перайшла на факультэт фізыка-матэматычны.

У верасьні 1939 году Заходнюю Беларусь акупавалі бальшавікі. Сталін адрэзаў Вільню - сэрца Беларусі - ад беларускае нацыянальнае тэрыторыі й аддаў яе Жмудзі. У восені, калі беларускім студэнтам прыйшоў час ехаць на ўнівэрсытэт на навуку, Кацярына Стаўбунік, ведамая беларуская дзеячка ў Пружанах, сабрала нас усіх беларускіх студэнтаў з Пружаншчыны і сказала: «Дзеці, цяпер ня час на навуку. Усім вам трэба ісьці ў школы выкладаць беларускую мову. Інакш у школах Пружаншчыны беларускае мовы ня будзе». І так па адным беларускім студэнце зь Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні Кацярына Стаўбунік паслала ў школы Пружаншчыны выкладаць беларускую мову. І Валянціне Жукоўскай - давялося быць настаўніцай беларускай мовы й літаратуры ў былой польскай гімназіі Адама Міцкевіча, ў якой калісь яна сама вучылася. Апрача працы ў сярэдняй школе, яна была выкладчыцай беларускае мовы й на курсе для настаўнікаў - калісьнейшых

ейных прафэсароў. І тут яна пераканалася, як бязцэннымі ёй аказаліся студыі на філялягічным факультээце грэкі й лаціны.

Як і шматлікім сябром Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні, так і Валянціне Жукоўскай наканавана было пакінуць Беларусь. У другой палове 40-х гадоў яна ў Ангельскай зоне Нямеччыны ў Беларускім ДП лягеры Ватэнштэце выкладае ў Беларускай гімназіі фізыку й апрача таго праз пэўны час ёсьць Сьцяжной беларускага жаночага скаўтынгу. Цяперашнія беларуыскія дзеячкі за мяжой: Вера Бартуль, Лёля Міхалюк, Каця Віньніцкая - гэта гадунцы Валянціны Жукоўскае - вучаніцы й скаўткі ў ДП лягеры Ватэнштэту.

Зь ліпеня 1949 году Валянціна ў Таронта, Канадзе. Як сяброўка Згуртаваньня Беларусаў Канады на Другім Агульным Зьезьдзе сяброў гэтае арганізацыі ў травені 1950 году поўніць функцыю Сакратара Зьезду. Дакумэнтуе важную падзею першае нацыяналльнае беларускае арганізацыі ў Канадзе.

У карасавіку 1950-га году Валянціна Жукоўская выйшла замыж за беларуса з Ашмяны Міхася Пашкевіча. Яны маюць двое дзяцей: Паўлюка й Эву і дзьве ўнучкі: Ларысу й Галіну.

У 50-х - 60-х гадох Валянціна Пашкевіч арганізатар й кіраўнік беларускага танцавальнага гуртка. А як народжаныя ў Канадзе дзеці падрасьлі да школьнага веку, Валянціна Пашкевіч арганізуе й праз 15 год вядзе беларускую суботнюю школу пры царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта. Складае для яе «Першую чытанку пасьля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў», выданую ў Кліўленд, у 1968 годзе. Яна аўтар англямоўнага падрукіка «БЕЛАРУСКАЯ МОВА» - "FUNDAMENTAL BYELORUSSIAN" - адзінага сыстэматычнага і найбольш поўнага курсу беларускай мовы для навучальных мэтаў за межамі Беларусі. Падручнік апіраецца на правапіс Браніслава Тарашкевіча. Два тамы падручніка «Беларуская Мова» - "FUNDAMENTAL BYELORUSSIAN" выдаў у 1974 і 1978 гадох Выдавецкі Камітэт пры Каардынацыйным Камітэце Беларусаў Канады.

Падрыхтавала яна і вялікі (каля 50 000 слоў) «Ангельска-беларускі слоўнік» выданьнем якога заняўся Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў ЗША.

Апублікавала артыкул «Навучаньне беларускае мовы ў англямоўным асяродзьдзі» (Запісы БІНІМ, Нью-Ёрк. 1983. Но. 17).

Пра Валянціну Пашкевіч ёсьць біяграфічная даведка ў Беларускай Энцыкляпэдыі (Мінск, 1994) Беларуская Мова.

Дзеці яе Паўлюк і Эва, калісь вучні беларускай суботняй школы, пішуць, чытаюць і размаўляюць пабеларуску.

## ВЫСОКАПАВАЖАНАЯ СПАДАРЫНЯ ВАЛЯНЦІНА ПРАШКЕВІЧ!

З нагоды Вашага Юбілею - 85-х угодкаў дзейнага, творчага, поўнасьцьцю адданага службе беларускай вызвольнай справы, жыцьця, шлем Вам нашыя сардэчныя прывітаньні й шчырыя пажаданьні ў добрым здароў'і яшчэ многія гады цешыцца, добра заслужаным, спакойным жыцьцём.

Жадаем Вам пабачыць на Вашым працоўным стале побач двох тамоў англямоўнага падручніка "Fundamental Byelorussian" - «Беларуская Мова» , і

сьвежавыданы том Ангельска-беларусклага Слоўніка - манумэнтальнага асягненьня Вашага творчага жыцьця.

Сто Год! Сто Блаславёных Вам Год!

За Кіраўніцтва Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады -
Раіса Жук-Грышкевіч, Старшыня

* * *

## 85-Я ЎГОДКІ АД СЬМЕРЦІ АЛЁЙЗЫ ПАШКШВІЧ ЦЁТКІ

85 год таму назад, 5-га лютага, 1916 году, у дзень нараджэньня Валянціны Пашкевіч, памерла слаўная беларуская, на грамадзкай, культурнай і палітычнай ніве, дзеячка, паэтка, складальнік беларускіх кніг для дзяцей, выдаваных у супацы «Загляне сонца й у наша ваконца» - **Алёйза Пашкевіч - Цётка.**

Памерла Алёйза Пашгкевіч - Цётка. А свой гарачы беларускі патрыятызм, свой запал й творчую энэргію служэньня беларускаму народу, беларускай вызвольнай справе, перадала ў спадчыне народжанай у той-жа дзень 5-га лютага, 1916 году, **Валянціне**, пазьнейшай **Пашкевіч**. І Валянціна на падмурку спадчыны Цёткі, на працягу свайго жыцьця верна йшла творчым сьледам Алёйзы Пашкевіч - Цёткі. «Цётка першая пачала выдаваць кнігі для дзяцей пабеларуску» - піша ў сваім дакладзе на 50-я ўгодкі сьмерці Цётка, у 1966 годзе, Валенціна Пашкевіч.

У актуальным і сягоньня вершы **«Наш палетак»,** Цётка зьвяртаецца з дакорам да тых беларусаў, што аддаюць сваю працу, свае здольнасьці для чужых:

Глеба чорна, у руках сіла,
Толькі нашых гаратаяў
Некась мара ўсё звадзіла
Гэн за межы для вараяў. . .
Наш сявец ня раз там кідаў
Залатое зерніе з жмені;
Ён ня раз там плёны выдаў,
А ў нас расьлі каменьні.

---

ВІТАЕМ СУРОДЗІЧАЎ У КАНАДЗЕ, БЕЛАРУСІ ДЫ ПА ЎСІМ СЬВЕЦЕ З НОВЫМ ГОДАМ.

ЖАДАЕМ ДОБРАГА ЗДАРОЎ'Я Й УСЯКАЙ ПАМЫСНАСЬЦІ ў НОВЫМ СТАГОДЗЬДЗІ!

**ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ І НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!**

---

Таронта, Бэры
Студзень, 2001

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Старшыня